Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 21 (72). Вільня, Серада 2 Сакавіка 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Ад Рэдакцыі.

**Дзеля таго, што ў № 20 зьмешчаны тыя самы артыкулы і весткі, што і ў № 19, акрамя перадавіцы „Сучасныя падзеі„, дык цяпер, калі канфіската зьнята, мы № 19 не рассылаем, а падаем „памілаваную“ перадавіцу ў гэтым № 21.**

## „Вольны Саюз Народных Рэспублік Усх. Эўропы“.

Пад такім загалоўкам падаў В. Гурвіч свой артыкул у месячніку „Революционая Россия“. Больш характэрныя часткі гэтага артыкулу падаём ніжэй...

„Пасьляваенны пэрыяд жыцьця Эўропы характарызуецца раздробленьнем цэлага раду дзяржаваў-левіатанаў на іх складныя нацыянальныя часткі, якія вершаць працэс тварэньня нацыянальных гаспадарстваў, гэтак характэрных для ўжо адбытага пэрыяду эўропэйскай гісторыі. Бяз сумліву, гэты працэс ў сваім заснаваньні быў натуральным і здаровым. Простая думка аб небясьпецы нацыянальнай барацьбы і неабходнасьці ў інтэрасе усіх заінтэрасаваных народаў Усходу вырашэньня іх спрэчак дарогай супольнай згоды, а не ўваружанай сілы, павінна быць палажана ў аснову ўсіх спробаў конкрэтнага вырашэньня проблемы.

З гэтага пункту гледжаньня — ясная і неадпавядальнасьць звычайнага падыходу да нацыянальнай проблемы Ўсходу большасьці дзеячаў расейскай эміграцыі, якія адкрыта ці моўчкі ўпіраюцца ў „непрызнаньні“ гістарычных і юрыдычных фактаў, маючых месца з кастрычніка 1917 году і па сутнасьці зьмяніўшых, як гаспадарствены лад быўшай Расейскай дзяржавы, таксама і яе межы. Пертварэньне яе спачатку ў Расейскую фэдэрацыйную Рэспубліку, складзеную з цэлага раду аўтаномных рэспублікаў і вобласьцей, і наступнае выдзяленьне з гэтае фэдэрацыі перш 4-х, а пасьля яшчэ 2-х сувэрэнных рэспублікаў з утварэньнем ўжо з іх (разам з Расейскай) саюзу сямі сувэрэнных рэспублік, ня можа лічыцца простым бальшавіцкім блёфам, аб якім у мамэнт падзеньня Радавага Ураду ўсе забудуць. Як-бы хто не ацэніваў гэтую бальшавіцкую рэформу, лятуцець цяпер аб нацыянальна-дзяржаўнай рэстаўрацыі „адзінае і недзялімае Расеі“ таксама ня прыходзіцца, як аб рэстаўрацыі зямельнай ці становай.

Прызнаючы гэтакую пазыцыю, не рэалістычнаю, неадпавядаючаю, а здольнаю толькі провоцыраваць у будучыне аружныя канфлікты, мы дамагаемся да неабходнасьці ўмоўнага прыняцьця за выхадны пункт для перагавораў, якія будуць, істнуючае цяпер юрыдачнае палажэньне (status quo) розных гаспадарстваў, нацыяў і вобласьцяй, ня дзеля замацаваньня яго на вячыстыя часы, а для спакойнага перагляду і арганізаванай перамены...

— — — — — — — — — — — —

Для народаў, якія выразна і свабодна выказалі волю да самастойнага гаспадарственнага істнаваньня, ня толькі самым фактам іх часовай незалежнасьці ў бурныя гады рэвалюцыі, але-ж і ўсенародным галасаваньнем — ці то шляхам плебісціту, ці дэмократычна арганізаваных выбараў у прадстаўніцкія органы, — права на незалежнасьць павінна быць прызнана неадкладна, г. з. без паўторнай паверкі шляхам новага галасаваньня...

З другога боку, неабходна прадугледзець магчымасьць выяўляньня ў масе некаторых з гэтых народаў волі к запраўднай аўтаноміі ці нават да поўнай незалежнасьці. Адмовіць ім у гэтым азначала-бы не прызнаць ім права на самаазначэньне.

Далей можа паўстаць пытаньне, у які спосаб магчыма выяўленьне волі да дзяржаўнай самастойнасьці ці толькі да аўтаноміі ў народаў, якія да гэтых часоў тэрыторыяй зусім не ўладалі? Паясьняючы гэта пакажам, што адносна да іх мы прадбачым магчымасьць воле-выяўленьня, ці цераз органы экстэрыторыяльнай аўтаноміі ці цераз органы мяйсцовага самаўраду адпаведных тэрыторыяў...

— — — — — — — — — — — —

Зьяўляючыся прынцыпіяльнымі староннікамі ўмацаваньня міжнароднай сувязі нават там дзе яна цяпер зусім ня істнуе, мы і для ўсяго Ўсходу Эўропы найболей пажаданай лічым форму саюзнага фэдэратыўнага гаспадарства, забеспячаючага кожнаму са складаючых яго гаспадарстваў-штатаў самастойнасьць ува ўнутраных справах і разам з тым магчымасьць супольнага з другімі зьдзейсьненьня агульных мэтаў. У аснову фэдэрацыйнага аб'яднаньня павінна быць палажана з аднаго боку дабравольная, не прымушаная згода ўсіх яго ўчасьнікаў на яго стварэньне, з другога боку запраўдная роўнасьць іх правоў і абавязкаў, з трэйцяга —

# Сучасныя падзеі.

У тую гадзіну, калі ахвары Косаўскіх крывавых падзеяў праводзіліся на месца заўсёднага супакою, здарылася ізноў забурэньне. На гэты раз ужо ў самай масе, на самым дне сялянскага мора ў вёсцы Малым Галіку...

Пасьля гэтага тое самае здарылася і ў Слоніме... Праўда, на гэты раз кончылася толькі на адным штыхавым уколе, але самы факт астаўся на заўсёды фактам. І вось, увесь час польскія газэты прыносілі нам і прыносяць смутныя весткі, поўныя жаху і трагізму, аб крывавых падзеях на нашай зямлі!...

Мы ня можам прайсьці моўчкі над здарэньнямі ў Заходняй Беларусі, дзеля гэтага мусім прыпыніцца і глянуць глыбей у самаю сутнасьць, знайсьці корань тых прычынаў, якія выклікалі іх і якія, магчыма, могуць выклікаць новыя забурэньні.

Перадусім глянем, што гаворыць „Kurjer Wileński“: „Так трэба ўрадаваць, — кажа аўтар артыкулу вядомы п. Срокоўскі, — каб падуладных да гэтых урадаў прызвычаіць, каб адчувалі яны сябе (падуладныя), сярод іх (урадоўцаў) адносна шчасьлівымі, каб мелі ясную цікавасьць у іх падтрыманьні, калі не з ідэйных, дык хоць-бы з апартуністычных паглядаў. Стацца гэта можа толькі ў двух выпадках, або тагды калі дзяржава цераз вялікае матэрыяльнае багацьце запэўніць кожнаму максімум дабрабыту, як гэта было ў Немцаў, або тагды, калі падуладныя будуць паклікаваны да рэальнай, супольнай працы. Мы ані аднаго, ані другога ня робім. Мы не праводзім вялікай інвэстыцыйнай палітыкі і не дазваляем, каб падуладныя нам народы адчувалі сябе як дома і самі аб сабе думалі“.

Дык вось у гэтым, і ўвесь трагізм наш і польскай дзяржаўнасьці, грамадзянамі, якое мы афіцыяльна зьяўляемся.

Будучы гэтакімі, мы маем канстытуцыю, якая забяспечвае нам вольнасьць і роўнасьць; маем Вэрсальскі і Рыскі трактаты; маем „языковыя ўставы“ і пры ўсім гэтым маем — поўнае ігнараваньне ўсіх гэтых фундамэнтальных законаў, бо дагэтуль прышлы элемэнт, рознага роду урадоўцаў займае ўсе ўстановы на нашых землях; наша інтэлігенцыя астаецца бяз працы, наша сялянства — без зямлі, тагды, калі лепшыя абшары заняты пад вайсковае асадніцтва і цывільнымі каляністымі. Мы ня маем самаўраду выбранага народам; замест гэтакага, маем самаўрад вызначаны панамі старостамі, кіраўніцтва ў якім аддана, пераважна, прышлым элемэнтам. Мы ня маем роднае школы; беларускія дзеткі змушаны вучыцца ў польскіх школах мэтодамі і пад кіраўніцтвам галіцыйскага вучыцельства, якое незнаёма з умовамі нашага жыцьця. Дык вось дзе крыніца апошніх трагічных падзеяў.

Падаючы гэтыя факты мы ня хочам рабіць нікаму ніякіх закідаў, мы ня зьбіраемся пагражаць, мы толькі хочам зьвярнуць на іх увагу адказных павадыроў польскай шовіністычнай і буржуазнай палітыкі і заявіць проста, шчо-ні-ёсьць у самы катэгарычны спосаб, што быць гэтак як ёсьць, далей ня можа.

Нам дарага і патрэбна жыцьцё на'т аднэй адзінкі, а дзеля таго ў тысяча першы раз заяўляем, што годзі іграць у камуністычнасьць, пара прыйсьці да перакананьня, што сутнасьць усяго трэба трактаваць ня гэтак, як гэта робіць нейкі Каўнацкі ў „Dzienniku Wileńskim“, бо гэты ўвесь рух творыць Беларускі Народ ідучы за сваім прадстаўніцтвам. Пускаючы ў сьвет гэтыя словы мы ня маем на мэце ніякага падбураньня. Мы дамагаемся для Беларусоў усіх належных ім правоў.

Разам з гэтым мы таксама заяўляем, што калі і далей будзе тое, што ёсьць цяпер, дык катастрофы і то самай страшнай і жудаснай не мінаваць. Мы хочам спытацца: каму і якая ёсьць карысьць ад таго, што пала некалькі ахвяраў і каму і якая будзе карысьць калі здарыцца нешта горшае?!

## Да кітайскіх падзеяў.

### Кітайскі флот перайшоў да кантонцаў.

Паводле данясеньня „Daily Expressu" увесь кітайскі флот перайшоў да рэвалюцыйнага кантону.

Паўднёвая (знача кантонская) армія заняла Су-Кіянг і находзіцца ў адлегласьці 20 міль ад Шанхаю.

### Паўночная армія рабуець.

З Шанхаю 24 г. мес„ паведамляюць, што войска ген. Сун-Чуан-Фанга (павадыра паўночнай арміі) зрабавалі крамы рыжу і прадзільні шоўку ў Сунг-Кіангу. З гэтай прычыны шмат ваякаў было пераразана праз паасобных вайсковых павадыроў, якія бяручы на ўвагу зблізжэньне паўднёвага войска стараюцца ўтрымаць дысцыпліну. Чужаземныя ўлады выдалі распараджэньне, маючы на мэце перашкодзіць забурэньням. Усе войскі, якімі тутэйшая вайсковая ўлада распараджаецца дзяржацца нагатове. На паўднёвым вакзале ў Шанхаю бліска французскіх канцэсіяў здарылася забурэньне, драбязгаў аднак аб гэтым няма.

### Концэнтрацыя сібірскага войска.

Ангельская газэта „Daily Mail" 25.II падае вестку з Токіё, што тут даведаліся аб концэнтрацыі сібірскага войска на манжурскай граніцы. Войска гэтае пасілена аддзеламі, якія прышлі з Расеі.

З Лёндана пішуць, што армія кантонская перамагла ў барацьбе, з якой прычыны ў месце была зроблена маніфэстацыя.

### Карахан з амуніцыяй у Кітаі

З Пекіна 24 г. лютага надходзяць весьці, што ў генэральную кватэру Чанг-Цо-Ліна прышло паведамленьне аб прыездзе ў Владывасток Карахана, савецкага амбасадара. Адначасна з гэтым прышлі ў Пекін вялікія транспорты амуніцыі (аружжа).

### Помач Амэрыканцаў.

У Шанхай прышоў амэрыканскі транспартоўнік, які прывёз на сваім пакладзе 1200 маракоў.

### Справа бамбардаваньня чужаземных канцэсіяў.

Праз тэл. агенства Reutera даведваемся, што кітайская марская ўлада ў Шанхаю афіцыяльна перапрасіла дыплёматычных прадстаўнікоў французскіх і ангельскіх за бамбардаваньне кітайскімі марскімі караблямі чужаземных канцэсыяў у апошні аўторак.

### Зьнясеньне кары сьмерці.

Урадовы камісар на абароне Шанхаю скасаваў распараджэньне аб экзэкуцыі (кары сьмерці) над кожным схваченым агітатарам.

### Забастоўка ў Шанхаі скончылася.

23 г. месяца ў Шанхаі пайшло на працу 20.000 работнікаў. Сама кітайская ўлада парыштавала забастоўшчыкаў у французскіх канцэсіях.

## Гарачая справа.

Гарачаю справаю віленскія польскія газэты „Dziennik Wileński" і „Głos" лічаць справу польскага школьніцтва на нашых землях; заклікаючы Палякаў, каб яны якнайхутчэй складалі заявы на польскія школы ў тых мясцох, дзе пададзеныя дэклярацыі на беларускія школы.

Разам з гэтым газэты вылічаюць дэклярацыі на беларускія школы з іменна.

У Віленскім павеце: Тураўшчына, Рэчкі, Цынцевічы, Іжа, Слабада, Талуць і Крулевец; у Маладэчанскім пав: Гарадок, Драваны, Навасёлкі, Бакшты, Путнікі, Загорцы, Адамовічы, Крапіўнікі, Бабры, Ясманоўцы і Ярашэвічы і ў Браслаўскім павеце: Казяны.

У далейшым працягу гэтыя газэты заклікаюць паміма Палякаў і „добрых грамадзян польскае дзяржавы" рабіць усё, што толькі магчыма, каб не дапусьціць да адчыненьня беларускае школы там, дзе ўжо на гэтакую складзены дэклярацыі. Вось бачым, што Палякі называюць гарачай справай.

**Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайся выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву".**

## Да нас пішуць.

### Лякарская помач.

(Нясьвіскі павет).

У той час, калі агульнае наша жыцьцё нібы замёрла, калі для сялян, працоўнага чалавека стварыліся вельмі цяжкія варункі жыцьця, у нашым Нясьвіскім павеце, а думаю і па ўсёй нашай многапакутвай Заход. Беларусі, ёсьць жменька людзей, якім і у нас Амэрыка; гэта мэдыцынскі пэрсонал, аптэкары, зарабляючыя „паамэрыканскаму".

Вось гэта жменька людзей будуе сваё шчасьце на цёмнаце і няшчасьці другіх. Забраўшы манаполь на лекі ў свае рукі і забараніўшы лячыць, як гэта ёсьць у нашым Несьвіскім павеце, усім старым пунктавым і валасным фэльчарам, каторыя як кажуць, зубы зьелі на гэтай працы,—пазбавілі вёску на месяцы лекарскай помачы, адабралі не ад аднога дзесятка людзей, кавалак хлеба, а што самае важнае, дык гэта распладзілі такое мноства рожных „дахтароў", ведзьмароў, шаптуноў, знахарак, што імі нашы вёскі проста засыпаны. Чым і як яны лечаць, гэта нашым павятовым дахтарам, нашаму сойміку мала абходзіць.

Так адна баба-знахарка лечыць ад усялякіх хвароб, настойкаю гарэлкі на дажджавых чарвяках, або на маёвых хрушчах, даючы яе піць, націрацца і мазацца хворым. Другая шаптуха курыць кнот, ды дае піць з гарэлкай попел ад спалёнага кноту. Ведзьмар, які небудзь там, смаліць хворага на грамнічнай сьвечцы, дне штось нюхаць хвораму, поіць гарэлкай запраўленай ад спаленых воласаў; кажа закусіць якім-небудзь зацьвеўшым „сухаром св. Андрэя".

Іншы гэткі „дохтар", лечыць усе хваробы вылучна мёдам, якога вымагае ад хворага па 3 гаршкі. Бяре ва крышцы з кожнага гаршка мёду, смаруе хворае месца, змывае вадой, а найбольш гарэлкай ды і кажа, каб гэту абмыйку піў. Агулам кажучы на лёкі ідзе ўсё, як воўна белая і чорная, сала, масла, гарэлка, парасё, вязюлістая курыца, аўчыны, палатно і г. д. Усе гэтыя лекі, памагаюць надта добра, але ведама ня хвораму, а варажбітам, бо ўсе гэтыя лякарствы, грошы, цудатворная гарэлка ідае толькі ім карысьць.

Вось гэта адно. Другое будае тое, што пазбавіўшы працы старых выпрабаваных фэльчароў, вяльможныя дахтары, за сваю працу, вымагаюць вельмі высокага ганарару. Так напр. за дзьве, тры вярсты ад Клецка, ці Несьвіжа, такі дахтар хоча 4—5 пуд. жыта, а калі барані Божа будзе вёрст з дзесяць, то мала будзе і дзесяці рублёў золатам! Цяпер у нашым павеце, пануе эпідэмія грыпы, дык нашыя паважаныя дахтары, добра зарабляюць, проста „паамэрыканску", пудзікаў 10 — 15 у дзень! Ну, чым скажаце гэта не „Амэрыка"! Апрача гэтага, як з вёскі, часта бяз грошай, дабрацца да Нясьвіжа, Клецка, за вёрстаў 30—40?

Як дабіцца да дохтара, які часта, спадзяючыся на сваю лякарскую спрытнасьць, слухае хворых ня трубой і вухам, а цераз шырокі стол не падаходзячы да хворага і ня кратаючыся з мягкага крэсла? А за лякарства нашы аптэкары, зьдзіраюць колькі хочуць, прыгатаўляюць яго часта на сьпех, без належнага дагляду і г. д.

*Мужычок.*

### Купляйце беларускія кніжкі!

(в. Сточак з пад Белавежа).

Наша вёска з аднаго боку багатая, а з другога бедная. Багатая наша вёска тым, што маем за шмат гасьцей як багатых так і бедных: адныя прыехалі сюды дзеля нажывы, бо дзе лес сякуць там і трэскі лятуць, кажа прыказка, другія каб не памёрці з голаду на сучасным безрабоцьці ў месьце, а трэціх выкінула хваля расейскай рэвалюцыі і іхняя частка апынулася і ў нас. Беднасьць наша зьяўляецца ў тым, што мы знайшліся пасярод двух уплываў польскага і маскоўскага, а самі ня маем досіць сілаў, каб бараніць нашую мову і нацыянальную сьведамасьць. Можа гэта зьявіцца толькі тады, калі мы аб'яднаемся ў беспартыйнай арганізацыі, якой зьяўляецца Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Т-ва Беларускай Школы, зацьверджаныя ўладай на ўсіх абшарах дзяржавы. І вось кожны сьведамы Беларус павінен быць сябром адной ці другой з гэтых арганізацыяў разам працаваць і тады толькі мы можам падняцца на ровень іншых цывілізаваных народаў. У нашай вёсцы ёсьць бібліятэка польская, можна дастаць кніжак і расейскіх, але трудна дастаць кніжку беларускую. Дык вось, давайце, з прыкладу другіх залажым тыдзень „беларускай кніжкі". У гэтым часе кожны граматны Беларус будзе магчы набыць сабе хоць адную кніжку дзеля сябе і свайго дзіцяці, каб ведама яму было, што тут жыве Беларус і ягоная мова.

Беларуская кнігарня Ст. Станкевіча (Вільня, Вострабрамская 2), ужо ладзіць танную прадажу кніжак на працяг часу ад 15 лютага да 1 сакавіка. Кожны сьведамы Беларус павінен скарыстаць з гэтай аказіі і безадкладна выпісаць сабе патрэбныя кніжкі, не прапушчаючы добрай часіны, а таксама дарадзіць другім меней сьведамым, каб куплялі яе. Беларуская кніга, гэта люстра душы таго народу, што стварыў яе, у ей адбіваецца ўсё пакутнае яго жыцьцё у барацьбе за нацыянальную сьведамасьць, за зямлю і за волю.

*Сонурак.*

### Наша прамысловасьць.

(Ваўкавыскі павет).

Даваенных часоў у нашым Ваўкавыскім павеце было нешта аж 19 бровароў, дзе выраблялася гарэлка. Гэтая галіна прамысловасьці ў шырокім размаху цьвіла і красавалася, робячы сваю забойчую справу. Жорсткая вайна не пашкадавала і гэтае чартоўскае рэчы, нараўні са ўсякім дабрабытам яна зьнішчыла і гэтую ліхотасьць.

Гэтак сама перад самаю вайною ў 12 вярстох ад м. Ваўкавыска пры станцыі і мястэчку Рось быў пабудаваны цэмэнтны завод, якому ўсьміхалася шчасьлівая будучына. Завод за тых часоў працаваў інтэнсыўна, даючы заробак некалькім тысячам жыхарства. Але-ж разам з гарэлкаю прапаў і цэмэнт з тою, толькі розьніцаю, каб застаяцца няведама на які час.

Цяпер, калі напрыклад у п. Бохвіца ў Падароскай валасьці, працуюць ува ўсю, аж два бровары, якія вырабляюць гарэлку, дык Росянскі цэмэнтны завод пустуецца і выглядае панура і сіратліва; неяк загадкава і фантастычна быццам руіны старадаўных замчышчаў, сьведчачы аб быўшай сваей вялікасьці.

Праўда, былі спробы пусьціць цэмэнтны завод у рух, але нічога ня вышла, бо — дзеля яго прадукцыі не знайшлося набыўцы.

Там-жа ў Росі замерла і другая прамысловасьць, гэта — шкляная. Праўда шкляные гуты ня было, але-ж пясок, які здабываўся тут, ішоў на іншыя гуты: цяпер гэтага няма.

Аб направе гэтага ніхто не турбуецца, забыўся і той, хто павінен дбаць аб направе сваей дзяржавы.

Дык вось, ці-ж гэта не паказальнік на існаваньне таго бязладзьдзя, якое стварае з нашага жыцьця пекла.

*Вольга.*

## НАШАЯ ПОШТА.

**Фр. Грышкевічу:** Лісты 1, 2 і 3 атрымалі як і сьпісак. Аркуш—16 старонак. Можа трэба лепш назваць „Расткі?".

**Андрэеўскаму І. і Батуры М.:** Праграму, інструкцыю і заявы паслалі.

**Гарэліку:** Вашую карэспандэнцыю атрымалі, але ня можна надрукаваць; пішыце аб чым іншым.

**Балабановічу Яз., Крышаловічу А., Даніловічу С.:** пробны нумар пасылаем.

**Батуры М., Лабачэўскаму Г.: Экавюку Т., Поўху М., Нечаю Ів., Буку Ів., Яўхутку К.:** Газэту пасылаем.

**Квактуну:** Карэспандэнцыі атрымалі, памагчымасьці надрукуем.

**Дасталі ад:**

Кнігарні Гэбэтнэр і Вольф—19 зл. 20 гр. А. Ашэра і К-о—16 зл.

Тумковіча Міхася і Кур'янкі Александра—**па 2 зл.**

Валашэвіча Мікалая, Андрыевіча Б., Сьцяпуры А., Шумскага В., Васіленкі К., Шыдлоўскага П., Карніцкага Б., Нечайскага А., Бутровіча М.—**па 1 зл.**

## БІРЖА.

Вільня, 1.III. 1927 г.

ВАЛЮТЫ:

| | | |
|---|---|---|
| Даляры | 8.91—8.91¾ | зл. |
| Рублі зал. (10 р.) | 47.20—47.30 | „ |

ЗБОЖЖА, ЗЕМЛЯРОБ. І ІНШ. ПРАДУКТЫ:

Вільня, 25.II. 1927 г.

| | | |
|---|---|---|
| Жыта за 100 кг. (6 пуд.) | 43.00—44.00 | зл. |
| Авёс „ „ | 37.00—38.00 | „ |
| Ячмень брав. „ | 37.00—38.00 | „ |
| „ на кашу „ | 00.00—00.00 | „ |
| Пшаніца „ | 50.00—51.00 | „ |
| Сланіна тутэйшая I гат. 1 кг. | 4.00—4.20 | „ |
| Клустасьць свінная „ | 4.50—4.80 | „ |
| Масла несал. за 1 кг. | 7.00—8.00 | „ |
| „ салён. | 5.50—6.20 | „ |
| Сьмятана за 1 літр | 2.50—2.80 | „ |
| Тварог „ | 1.30—1.50 | „ |
| Яйкі за 1 дзес. | 2.30—2.50 | „ |

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.